№ 10
травень
1991

год заснаваньня 1902
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА
выходзіць з 1990

кошт 30 кап.

# СВАБОДА

## АГОНІЯ РЭЖЫМУ

Ігар ГЕРМЯНЧУК,
народны дэпутат БССР
(апазыцыя БНФ)

З пачаткам сэсіі Вярхоўнага Савету БССР на Беларусі распачынаецца новая хваля страйкаў — чацьвертае за мінулыя паўтары месяцы. І няцяжка прадказаць, што будуць яшчэ пятая, шостая, сёмая...

Страйкавы марафон на гэтым ня спыніцца. Бо, па-першае, ціск пакуль не настолькі магутны, каб улада адразу ж узняла «рукі-угару». А, па-другое, суцішыць народ, адкупіцца ад яго (нават калі б і было чым) гэтая ўлада ўжо ня мае ніякіх шанцаў. І якія б тут надзеі не ўскладала КПБ на чале са сваім лідарам А.Малафеевым на надзвычайнае (чытай: вайсковае) становішча, ягонае ўвядзеньне толькі прысьпешыць падзеньне рэжыму. Падзеі красавіка-траўня ды выкліканыя імі настроі ў грамадзтве яскрава сьведчаць, што й гэты Вярхоўны Савет, і сфармаваны ім урад (апазыцыя, нагадаю, за яго не галасавала) канчаткова здыскрыдытавалі сябе ў вачох людзей.

Зараз яны спрабуюць пераканаць нас, а найперш, відаць, супакоіць сябе тым, што, маўляў «50 ці нават 100тысячаў на плошчы — гэта яшчэ ня ўвесь Менск, а Менск — далёка ня ўся Беларусь...»

Яно так. Але варта нагадаць, што Прага — гэта таксама ня ўся Чэхаславаччына, а Усходняя Нямеччына — гэта ня толькі Бэрлін. І тым ня менш, калі ў гэтых сталіцах на вуліцу выйшла паўмільёна, мы ўсе выдатна ведаем які быў фінал.

Згодны: Менск — ня Прага. Аднак будзем памятаць, што яшчэ пару месяцаў таму ён быў больш падобны на Гавану. І зусім невыключана, што ўсё можа вырашыцца нават ужо сёлета. У нашай сытуацыі, калі абсалютна ўсе апазыцыйныя сілы — і БНФ, і страйкамы, і новыя партыі, і наогул, уся актыўная частка грамадзтва выступаюць супроць існуючага рэжыму, а ў яго ў запасе ўсяго толькі адзіны аргумант — сіла, такой уладзе жыць засталося нядоўга.

Зразумела, што гаворачы пра ўладу, я маю на ўвазе тых, хто рэальна трымае яе ў руках. А менавіта: зьвязак «ЦК КПБ — дэпутацкая група камуністаў у ВС БССР», якая мае дастатковую колькасьць галасоў (больш за 170),

*(працяг на стар. 4)*



**“На Беларусі Бог жыве...” ?**

*фота С.ГРЫЦА*

## Рыхтуецца дыктатура ?

"Першыя дні сэсіі Вярхоўнага Савета БССР сьведчаць, што камуністычная большасьць імкнецца ўсталяваць у рэспубліцы жорсткую дыктатуру",-- заявіў у інтэрвію СВАБОДЗЕ народны дэпутат БССР Уладзімер Станкевіч.

Ужо ў канцы траўня на сэсіі мяркуецца разглядзець пытаньне "аб заснаваньні паста Прэзыдэнта БССР". Каб унесьці на гэты конт адпаведныя зьмены ў Канстытуцыю, камуністам патрэбна, як мінімум, 230 галасоў (2/3 агульнай колькасьці дэпутатаў), якія яны могуць лёгка сабраць, калі забясьпечаць прысутнасьць на сэсіі ўсяе намэнклятуры. Самога ж "прэзыдэнта" разьлічваюць выбраць на сэсіі, і ў падтрымку гэтае ідэі партыйная група зьбірае подпісы сваіх дэпутатаў.

Калі камуністы прапіхнуць зьмены ў Канстытуцыю, свайго прэзыдэнта яны пасадзяць бяз праблемаў. Дзеля гэтага ім патрэбна ўсяго толькі "простая большасьць" -- 173 галасы. Мяркуючы па размовах у кулуарах Вярхоўнага Савета, найбольш рэальныя шансы заняць пасаду прэзыдэнта мае В.Кебіч. Не выключана, таксама, што будзе вылучана кандыдатура С.Шушкевіча, які займеў пасьля красавіцкіх страйкаў неблагую падтрымку сярод намэнклятуры.

Але ўвядзеньне прэзыдэнтства -- гэта толькі першы крок. На пачатак чэрвеня заплянаваны таксама і разгляд законапраекта "Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча".

Праект закона, у прыватнасьці, дае ўраду паўнамоцтвы: "У залежнасьці ад канкрэтных абставін, забараняць правядзеньне страйкаў, сходаў, мітынгаў; уносіць зьмены ў пляны прадпрыемстваў і арганізацыяў па вытворчасьці і пастаўках прадукцыі, уводзіць асобы рэжым работы прадпрыемстваў; прызначаць і вызваляць ад пасады кіраўнікоў прадпрыемстваў, забараняць звальненьні рабочых і службоўцаў па ўласным жаданьні; прыцягваць працаздольных грамадзян да працы..;ставіць пад кантроль сродкі масавае інфармацыі; уводзіць камэнданцкую гадзіну ; прыпыняць дзейнасьць палітычных партый, грамадзкіх арганізацыяў, масавых рухаў...". Але ня ўсіх, а толькі тых, "якія перашкаджаюць нармалізацыі становішча".

Во, даюць! **П.П.**

## Ці падпісваў Кебіч сакрэтны «мэмарандум»?

**Падрабязныя тлумачэньні на гэты конт старшыня Саўміну БССР В.Кебіч вымушаны быў даваць на адным зь нядаўніх паседжаньняў прэзыдыюма ВС БССР. На гэтым настаяў старшыня Камісіі па міжнародных справах дэпутат П.Садоўскі.**

Пытаньне ўзьнікла пасьля таго, як у маскоўскай прэсе зьявіліся першыя зьвесткі пра тое, што прэзыдэнт Гарбачоў ды кіраўнікі дзевяці рэспублікаў, разам з апублікаванай у друку сумеснай заявы, вядомай пад назваю «9+1», падпісалі яшчэ й сакрэтны мэмарандум. Штотыднёвік «Коммерсант» (№ 67) пераказаў нават асноўныя палажэньні гэтага дакуманту, у якім дэталёва падзелены сфэры ўплыву рэспублікаў і цэнтру, а таксама зафіксаваныя іх узаемныя абавязкі.

Аднак Кебіч заявіў на прэзыдыюме, што ён нічога ня ведае пра існаваньне сакрэтнага мэмарандуму. «Ніякіх дакумантаў, апроч ўсім вядомай сумеснай заявы, я не падпісваў», — сказаў ён.

Тым часам, маскоўскія ды рэспубліканскія газэты (за выключэньнем хіба што беларускіх) працягваюць актыўна «капаць» у гэтым кірунку, фактамі сьцьвярджаючы, што сакрэтнае пагадненьне ўсё ж было, хаця прэс-служба прэзыдэнта СССР хвармальна й абвяргала існаваньне канфідэнцыяльных дамоўленасьцяў.

Але цалкам можа быць, што ні Кебіч, ні хто іншы з кіраўніцтва БССР сапраўды ня маюць да гэтых дамоўленасьцяў ніякага дачыненьня. Яно й ня дзіўна: хто ж будзе лічыцца з «палітыкамі», якія нават не імкнуцца праводзіць ніякае самастойнае палітыкі? Гарбачоў зь Ельцыным усё, відаць, выдатна вырашылі і бязь іх, падзяліўшы ня толькі ўладу у Расеі, але й «сфэры ўплыву» на Беларусь ды іншые свае «сувэрэнныя» калёніі.

Што гэта: чарговы пакт?

## Аўтаномія польская, а ў інтарэсах маскоўскіх?

**На 22 траўня ў мястэчку Шальчынінкай (Летува) заплянаваны працяг зьезду дэпутатаў усіх узроўняў Віленшчыны. Такое рашэньне прынятае на паседжаньні Каардынацыйнае рады па стварэньні Віленскага польска-нацыянальна-тэрытарыяльнага краю.**

На першым этапе зьезду, які адбываўся ў кастрычніку мінулага году, дэпутаты вырашылі стварыць у складзе Летувіскай рэспублікі польскую аўтаномію. Гэтым жа разам удзельнікі паседжаньня ўхвалілі праект Статуту — своеасаблівага асноўнага закону аўтаномнага краю, які зьбіраюцца прапанаваць зьезду. Мяркуецца ўзаконіць і Сойм польскай аўтаноміі, надзяліць яго заканадаўчымі паўнамоцтвамі, даручыць яму сфармаваць сваю сыстэму аховы правапарадку й суду. Прынятае рашэньне і нарконт моў: польская й расейская мовы абвешчаныя роўнапраўнымі зь дзяржаўнай летувіскай.

Што азначае гэта для беларусаў, спрадвечных жыхароў гэтак званага беларуска-летувіскага памежжа, уявіць няцяжка. Ужо зараз пад нарастаючым уплывам царквы й школы, намаганьнямі сродкаў масавай інфармацыі, а таксама асобных (далёка не адзінкавых) пасьлядоўнікаў ідэі Пілсудзкага ды прыхільнікаў Кампартыі Летувы большасьць славянаў гэтага краю атаясамлівае сваю нацыянальную прыналежнасьць зь веравызнаньнем. Адсюль і ўзьніклыя апошнім часам у Летувіскай рэспубліцы праблемы аўтаноміі...

Ёсьць падставы меркаваць, што Масква зацікаўленая ў абвешчаньні ў непаслухмянай Летуве падобнае аўтаноміі. У выпадку, калі з боку кіраўніцтва Летувы будуць прынятыя ў дачыненьні да ствараемага Сойму радыкальныя захады, Масква можа наважыцца ўвесьці войскі ці дадатковыя міліцэйскія сілы. У выніку — новае абвастрэньне міжнацыянальных канфліктаў, пад шыльдаю спыненьня якіх можа хавацца яшчэ адна спроба вярнуць уладу Масквы над Летувіскай рэспублікай.

**А. Ліпай.**

## У Пінску «всё в порядке»

**Семнаццаць дэпутатаў Пінскага гарадзкога Савету адмовіліся ўдзельнічаць у выбарах старшыні мяйсцовае ўлады, настойваючы на правядзеньні простых выбараў мэра ўсім насельніцтвам горада.**

Закон дазваляе такі варыянт. Галоўнае ж, што за гэта выступаюць і самі выбаршчыкі: з 2708 пінчукоў, што былі апытаныя мяйсцовымі сацыёлягамі, амаль 97% выказаліся за выбары мэра.

Але пінская намэнклятура, якая складае бальшыню ў гарсавеце, зрабіла ўсё, каб старшыня Савету абіраўся менавіта на сэсіі. І зразумела, пасадзілі ў гэтае крэсла адданага партапарату чалавека — Ул. Цімошчанку, які з 1981 г. быў на інструктарскай рабоце ў гаркаме, а пад час выбраньня ў гарсавет загадваў аддзелам пінскага гаркаму КПБ.

Нашая дэпутацкая група выступіла на сэсіі з адпаведнаю заяваю. Але давесьці яе зьмест да ведама сваіх выбаршчыкаў праз «Пінскі веснік» мы так і не змаглі. Газэта, якая заснаваная гарсаветам і хвармальна зьяўляецца яго ным друкаваным органам, на самай жа справе цалкам кантралюецца гаркамам КПБ.

**А.Аўсеянка,**
дэпутат Пінскага гарсавету.

## Пачаліся ганеньні

**Адміністрацыя менскага гадзіньнікавага заводу «Прамень» распачала ганеньні супраць актыўных удзельнікаў красавіцкіх страйкаў.**

Спрабуюць расправіцца, у прыватнасьці, з работніцаю прадпрыемства Л.Васільевай, якая рэзка выступіла супраць начальства на мітынгу, што быў арганізаваны заводзкім страйкамам.

Л.Васільева распавяла на мітынгу, як мяйсцовая хэўра на чале з гэнэральным дырэктарам Абрамчыкам ды старшынём прафкаму Кірпічэнкавай, плюючы на закон і мараль, тры гады перасьледвала яе, зьдзекавалася, прыніжала яе чалавечую годнасьць... А ўсё за тое, што яна заявіла пра крадзёж гадзіньнікаў начальствам. Тады яе прымусілі пакінуць завод. Аднак пасьля апэляцыяў «наверх», усё ж аднавілі на працы. Цяпер жа вырашылі, відаць, канчаткова «разабрацца» з Васільевай. Бо занадта ўжо многа яна расказала на мітынгу пра ценявую дзейнасьць свайго непасрэднага начальніка — намесьніка дырэктара па быце Харэўскага — былога сакратара парткаму, пра ягоныя махінацыі з разьмеркаваньнем кватэраў, машынаў, пуцёвак і г.д. «Если будешь трогать Харевского, разделаемся с твоей дочерью», — раз-пораз ананімна пагражаюць ёй па тэлефоне.

Маці трох дзяцей у адчаі...

**К.Аляшкевіч**

## Як ставяцца менчукі да страйкаў?

Гэта паспрабавала высьвятліць сацыялягічная служба СВАБОДЫ, апытаўшы 246 менчукоў (44% зь іх — жанчыны) рознага ўзросту і сацыяльных групаў.

Найперш, апытаньне паказала, што жыхары сталіцы — дастаткова дасьведчаныя людзі. Патрабаваньні, выстаўленыя менскімі рабочымі пад час красавіцкіх страйкаў, добра вядомыя — 75% апытаных, прыблізна — 16%, амаль не ведаюць — 9%.

Патрабаваньні страйкоўцаў падтрымліваюць увогуле:

цалкам — 53%;
толькі эканамічныя — 18%;
толькі палітычныя — 7%;
не падтрымліваюць увогуле — 13%;
не змаглі адказаць — 9%.

На пытаньне: «Ці здольны цяперашні склад Вярхоўнага Савету БССР вывесьці рэспубліку з крызысу?»
адназначна заявілі:
«НЕ» — 70%,
«ТАК» — 7%.

Астатнія 23% альбо маюць яшчэ мізэрную надзею на гэты ВС, альбо ўвогуле ўжо ні на што не спадзяюцца й нікому ня вераць.

За правядзеньне масавых страйкаў з мэтаю паскорыць рэформы ў рэспубліцы выказваюцца 38% апытаных; салідарныя зь імі, але лічаць неабходным страйкаваць толькі ў выключных выпадках — 23%; супраць страйкаў — 28%; ня маюць пэўнай пазыцыі — 11%. Найбольш прыхільнікаў страйкаў сярод рабочых (да 70%), найменш — у асяродку пэнсіянэраў. І што характэрна — часьцей супраць страйкаў выступаюць кабеты, звычайна сталага ўзросту.

# КПБ хоча зарэгістравацца. Але . . .

З колаў, блізкіх да кіраўніцтва Кампартыі Беларусі, СВАБОДЗЕ стала вядома, што апошнім часам функцыянэры ЦК КПБ актыўна шукаюць шляхі, як зарэгістраваць сваю партыю.

Нагадаем, што зарэгістравацца «в установленном порядке» КПБ ня мае сёньня ніякіх шанцаў, бо не прыняла ўласнага статуту. А парадак такі, што толькі на падставе статуту й можа быць зарэгістраваная любая партыя.

Як жа быць? Наколькі нам вядома, ў ЦК разглядаецца два варыянты.

Першы: націснуць на Міністэрства юстыцыі БССР, каб зарэгістравалі пакуль што без статуту — «в порядке исключения».

Другі: спэцыяльна сабраць нечарговы зьезд КПБ ды прыняць усё ж свой статут. Аднак пра зьезд канкрэтная гаворка ня йдзе, бо спадзяюцца на першы варыянт. У ЦК КПБ выдатна разумеюць, што іхнія справы з рэгістрацыяй не зусім кепскія, пакуль усе работнікі мінюсту — ад міністра Л.Дашука да звычайнага клерка — застаюцца членамі КПСС. Няўжо «не пойдут навстречу» роднай партыі?

Як бы там не было, але зарэгістравацца КПБ трэба не пазьней 31 сьнежня г.г. Калі гэта ня будзе зроблена, — закон прадугледжвае даволі суровыя санкцыі, у тым ліку й закрыцьцё банкаўскіх рахункаў партыі. І можа стацца, што Малафееў, Камай, Ціхіня ды ўся іхняя каманда застануцца без зарплаты.

Што ж датычыць рэгістрацыі Беларускага Народнага Фронту, дык у хуткім часе, па нашых зьвестках, гэтае пытаньне будзе канчаткова вырашанае. Пасьля двух гадоў супрацьзаконных ганеньняў ды забаронаў, бальшавікі, відаць, нарэшце ўцямілі, што цкуючы БНФ ды заганяючы яго ў «падпольле», яны гэтым толькі спрыяюць папулярнасьці апазыцыйнага руху.

Віктар МАЙСТРОВІЧ.




# Ратуйся як можаш

Чым больш законаў прымае камуністычны Вярхоўны Савет БССР, тым часьцей зьдзіўляе выбаршчыкаў ня толькі сваёю пячорнаю рэакцыйнасьцю, але яшчэ й выключнай некампэтэнтнасьцю.

Вось толькі адзін прыклад. Апошнім часам ахвіцыйная прэса многа трубіць пра гэтак званы «чарнобыльскі» закон ды адпаведную пастанову, падаючы іх ня йнакш, як узор «клопату пра народ». І ніхто з прапагандыстаў ня бачыць, што гэтыя дакументы груба супярэчаць адзін аднаму.

Параўнайце хаця б артыкулы, якія датычаць адсяленьня людзей з забруджаных зонаў. У пастанове «Аб першачарговых захадах...» прынята рашэньне адсяляць з усіх абшараў, дзе забруджанасьць складае 15 кю й больш. А ў законе «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў...» праз паўгады дэпутаты запісваюць: людзі павінны адсяляцца толькі з тых мейсцаў, дзе дозавае ўзьдзеяньне радыяцыі на арганізм перавышае 0,1 бэра на год. Калі кіравацца пастановаю, дык трэба перасяліць 365 вёсак ды мястэчак (82 тыс. чалавек). Згодна ж закону выходзіць, што абавязковаму перасяленьню падлягаюць толькі 112 вёсак.

Нават ня дужа разумныя саўмінаўскія чыноўнікі зьдзіўляюцца гэткай «законатворчасьці». Дзякуючы гэткім бязглуздым рашэньням, яны дагэтуль ня могуць вызначыцца: каго ж перасяляць? А людзі тым часам гібеюць у зоне.

З крыніцаў Акадэміі навук СВАБОДЗЕ стала вядома, што на нядаўнім паседжаньні ў Саўміне зноў дыскутавалася гэтая праблема. Бальшыня схілялася да таго, каб адсяляць усё ж з зоны 15 кю. Нешта, здаецца, пачаў разумець і Бур'як. «Пакуль мяне носяць толькі на плякатах, — заявіў ён, — Але калі мы не адселім гэтую зону, дык тады ўжо пэўна панясуць жыўцом». Аднак ці зразумее гэта Вярхоўны Савет?

Андрусь ЛАПЦЁНАК.

## Канфэрэнцыя МАГАТЭ

Яна адбудзецца 21-24 траўня ў Вене і разгледзіць даклад па праблемах Чарнобыля, падрыхтаваны міжнароднай камісіяй экспэртаў, якія на працягу года працавалі ў СССР. Ад іх ацэнкі ў многім будуць залежаць маштабы міжнароднае дапамогі Беларусі ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыля.

Па нашых зьвестках, замежныя экспэрты лічаць сітуацыю значна менш катастрафічнай, чымся яе ацэньваюць беларускія навукоўцы.

# Дапамажыце Наташы!

Людзі добрыя!

Вялікае гора вымушае мяне зьвярнуцца да Вас па дапамогу. Маю 16-гадовую дачку Наташу, маё адзінае дзіця напаткала цяжкая хвароба — рак шчытападобнай залозы. Сьпэцыялісты лічаць, што гэта вынік чарнобыльскае радыяцыі. Наташу зараз лечаць у Менску. Але надзея вельмі малая. Дактары кажуць, што жыцьцё маёй дачкі могуць уратаваць толькі кансультацыі ды лячэньне за мяжою. Аднак для гэтага патрэбна валюта, якой, зразумела, у нас няма. Сябры Наташы — вучні школы № 11 г.Гародні пачалі зьбіраць грошы, каб набыць валюту на «чорным рынку». Я ведаю, што дзеці ў Гародні разьбіваюць свае скарбонкі, ахвяруюць сваёю марай набыць ровар ці магнітафон і дапамагаюць нам. Нізкі паклон Вам, мае дарагія.

Але я разумею, што толькі такім шляхам мы ня здолеем сабраць патрэбную суму. І мне нічога не застаецца, як прасіць дапамогі ва ўсіх добрых, міласэрных людзей у сьвеце. Калі можаце — дапамажыце ўратаваць маё адзінае дзіця.

Нумар нашага рахунку для ахвяраваньняў у валюце: 07025809 «В» МФО 805153 у Зьнешэканомбанку



СССР ОПУ Беларускага рэспубліканскага банку ў г.Менску. Нумар рублёвага рахунку Наташы: 29299 у ашчадным банку №6416/07 у г.Гародня.

**З удзячнасьцю й надзеяй ГОРБАЧ Галіна Уладзімераўна, настаўніца беларускае мовы ды літаратуры школы №20 г.Гародні**

**Ад рэдакцыі:** Публікуючы ліст маці і здымак Наташы ГОРБАЧ, мы спадзяемся, што на прозьбу аб дапамозе адгукнуцца ня толькі прадпрыемствы, фірмы і прыватныя асобы на Беларусі, але й нашыя суайчыньнікі за мяжой. Будзем міласэрнымі.

**52 былыя** «ворагі народу», што жывуць у Магілёве, аб'ядналіся ў Таварыства пацярпелых ад незаконных рэпрэсіяў каб сумесна дамагацца ільготаў дзеля ахвяраў бальшавіцкіх турмаў і лягераў.

**Пінская** епархіяльная ўправа зьвярнулася ад імя вернікаў у выканаўчы камітэт гарсавету з просьбаю перадаць Праваслаўнай царкве некалькі пабудоваў у горадзе. На апошнім з пасяджэньняў выканкаму, дзе разглядалася гэтая прозьба, вырашана вярнуць епархіі тры пабудовы. Аман.

**Створаны аргкамітэт** Студэнцкае рады Менскага Дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту, у які ўвайшлі прадстаўнікі амаль усіх факультэтаў. Рада абяцае ўзяць на сябе абавязак абароны студэнцкіх інтарэсаў. Больш 50 акадэмічных групаў інстытуту ўжо выказаліся ў падтрымку патрабаваньняў, сфармуляваных аргкамітэтам. Сярод іх — выдзяленьне на народную адукацыю 10% нацыянальнага прыбытку, падвышэньне стыпэндыяў, забарона ў навучальных установах рэспублікі дзейнасьці ўсіх палітычных арганізацыяў, замена назвы інстытуту зь «імя М.Горкага» на «імя Усевалада Ігнатоўскага». Зварот Рады МДПІ да Вярхоўнага Савету БССР, у якім выкладзеныя патрабаваньні студэнтаў, перададзены ў сакратарыят парляманту.

**Як паведаміў** інжэнэр аддзелу эксплуатацыі Віленскага аўтобуснага парку Сігітас Барэйка, усе летувіска-расейскія шыльды на маршрутных аўтобусах гэтага аўтатранспартнага прадпрыемства, якія злучаюць Вільню з гарадамі Беларусі, у самым хуткім часе будуць замененыя на летувіска-беларускі варыянт іх напісаньня.

**Тым часам,** як амаль па ўсёй Беларусі сьметанковае масла прадаецца выключна па талёнах, у Мсьціславе апошнім часам яно свабодна ляжыць у крамах: бяры — не хачу.

«Изобилие» настала пасьля таго, як мяйсцовыя улады перасталі рэагаваць на тэлеграмы-загады Крамля аб неабходнасьці дадатковых паставак прадуктаў у Маскву. Разам з мсьціслаўцамі палёгку адчулі й жыхары Смаленшчыны, якія традыцыйна езьдзяць у БССР за прадуктамі.

**Напярэдадні сэсіі ВС БССР** у рэдакцыю СВАБОДЫ зьвярнуўся малады паляўнічы з Шацілак (Сьветлагорск) В.Кузьмянок. Ён настойліва прасіў перадаць сакратару ЦК КПБ В.Ціхіню, каб тэй абавязкова ўзьняў на гэтай сэсіі праблемы забесьпячэньня шацілкаўскіх паляўнічых стрэльбамі, порахам ды іншым рыштункам. Выбаршчык лічыць, што іхні дэпутат Ціхіня павінен належным чынам заняцца гэтым пытаньнем, «бо менавіта мы — паляўнічыя — зрабілі яму палітычную кар'еру». Рэч у тым, што Шацілкаўскае таварыства паляўнічых было першаю і адзінай арганізацыяй, якая ў свой час вылучыла Валерыя Гур'евіча кандыдатам у дэпутаты ВС БССР.

Інфармацыю падрыхтавалі: **А.ЛІПАЙ, П.ПАНКРАТОВІЧ.**

# ПРА НАС ПІШУЦЬ

**The New York Times (ЗША)**
«Карл Маркс, падобна, меў рацыю у тым, што рабочая кляса можа стаць самаю магутнаю сілай. Ад шахтаў Кузбасу да вуліцаў Менску рабочыя патрабуюць канца ненавіснаму пралетарскаму раю, абяцанаму ім Марксам ды накінутага на іх камунізмам.

Па-расейску страйк — забастоўка, ад італьянскага баста — досыць! — гэтага патрабуюць шахцёры на шостым годзе пакутлівых намаганьняў Міхаіла Гарбачова прадоўжыць жыцьцё Савецкай сыстэмы.»

**The Ottawa Citizen (Канада)**
«Пад час 12-днёвага візыту ў Паўночную Амэрыку, Зянон Пазьняк, дэпутат і старшыня Беларускага Народнага Фронту, сказаў, што страйкавыя камітэты зактывізавалі іхні рух і маюць сілы й арганізацыю, каб зрабіць незалежнасьць рэальнай.

«Страйкоўцы падтрымалі незалежніцкі рух, адна з мэтаў якога — элімінацыя камуністычных структураў. Людзі разумеюць, што нашыя сацыяльныя, эканамічныя й экалягічныя праблемы ня вырашацца, пакуль рэспубліка ня стане незалежнай».

**Sun Baltimore, (ЗША)**
«Яны (страйкоўцы — Рэд.) гонар шматпакутнае, доўгамаўклівае рабочае клясы Беларусі. Дзесяцігодзьдзямі іх прызвычайвалі пакорліва дэфіляваць перад камуністычнымі босамі на кожнае 7 лістапада й 1 траўня.

Учора рабочых ніхто не запрашаў. Яны самі адкінулі «сярпы» й «молаты» ды выйшлі, для большасьці зь іх, на свой першы палітычны мітынг.

Яны пачулі, што амэрыканскія рабочыя атрымліваюць у сярэднім 12 даляраў за гадзіну — неверагодная сума, якая ў пераліку на рублі па новым курсе абмену для турыстаў перабольшвае штомесячны заробак сярэдняга савецкага рабочага.

Пад каменным позіркам усюдыснае постаці Уладзімера Леніна, незалежны эканаміст Анатоль Станкевіч заявіў: «Кажу вам як эканаміст: адзіны слушны шлях — гэта шлях капіталістычнага разьвіцьця. (Воплескі). Капіталізм гэта ня толькі высокія цэны, гэта яшчэ й высокія заробкі. (Воплескі). Капіталізм—гэта свабода».

**Як паведамляе газэта «The Ottawa Citizen», «плян пасланцаў беларускіх дзяцей у Канаду ўзьнік у выніку нядаўняга візыту ў Атаву Генадзя Грушавога, дэпутата Беларускага парляманту, старшыні Беларускага Дабрачыннага Фонду «Дзеці Чарнобыля».**

« Сёлета яго група пасылае дзьве партыі дзяцей у сем'і Таронта й Лёндану,—піша газэта,— яшчэ 5000 выпраўляюцца ў Нямеччыну, і дзьве тысячы ў іншыя Эўрапейскія краіны.

Настаўніца Нэнсі Гранды й яе мужык Бэртан, службовец, таксама спадзяюцца прыняць дваіх дзяцей.

Першы раз сям'я Грандаў гасьцінна адчыніла дзьверы свайго дому, калі ў Атаву сёлетняй вясной прыехалі 37 вучняў з расейскага места Ноўгарад. 15-гадовая Вольга прабыла ў іх 10 дзён, і за гэты кароткі адцінак часу яны лепей пазнаёміліся з жыцьцём у Савецкім Саюзе, чым за многія гады дагэтуль.

«Мы ламалі галаву, які падарунак купіць даляраў так за 300, і нас зьдзівіла яе шчырая радасьць, калі мы купілі ёй куртку ўсяго за 12 даляраў», — кажа Нэнсі. «Для яе ўсё тут было дзіўна і прыгожа. Яна ня верыла вачам, калі бачыла ў крамах столькі ежы. У Кэмптвільскай краме яна папрасіла зрабіць яе здымак каля садавіны й агародніны».

**Пад час візыту Алеся Адамовіча ў Злучаныя Штаты ён даў інтэрвію для часопісу «World Monitor». У грунтоўным артыкуле пра пакутлівы чарнобыльскі лёс Беларусі, ён, у прыватнасьці, піша:**

«Я спаткаўся з Валерам Аляксеевічам Лягасавым, віцэ-прэзыдэнтам Акадэміі Навук СССР, які дапамагаў праектаваць Чарнобыльскую атамную станцыю й шэраг падобных ёй. Прыгнечаны ўразуменьнем, што Чарнобыльскі выбух быў непазьбежным з прычыны дрэнна пабудаваных рэактараў, ён чакаў, што гэта ж будзе й зь іншымі ды нават прадказаў, у якой пасьлядоўнасьці яны будуць выбухаць: спачатку ў Арменіі, потым у Ленінградзе, Летутве, Смаленску й гэтак далей, усяго 11 станцыяў. Ён даў мне дазвол на апублікаваньне гэтага раскладу. Затым 26 красавіка, у дзень другіх угодкаў ядзернае навалы, ён павесіўся.»

Падрыхтаваў **І.КАРПІКАЎ**

# АГОНІЯ РЭЖЫМУ

*(пачатак на стар. 1)*

каб правесьці любое рашэньне. Чыё?

Дэпутаты-камуністы сьцьвярджаюць што нібыта яны кіруюцца «выключна толькі сваім сумленьнем і воляй выбаршчыкаў». Як бы ня так! Нават ЦК не адмаўляе ўжо таго факту, што цалкам кантралюе Вярхоўны Савет. За круглым сталом «ЛіМа», напрыклад, цэкоўскі функцыянэр адкрыта заяўляе: няма нічога дзіўнага ў тым, што дэпутаты-камуністы дружна прагаласавалі супроць прыватнай уласнасьці на зямлю, бо такім было рашэньне зьезду КПБ і яны выконвалі яго волю.

Зрэшты, хто ёсьць хто ў Вярхоўным Савеце — нам, апазыцыі, было ясна ад самага пачатку, як, напэўна, і многім выбаршчыкам. Дастаткова было ўважліва прааналізаваць сьпіс тых, хто атрымаў дэпутацкія мандаты дзякуючы КПБ. І тым ня менш роўна год мы заставаліся канструктыўнай апазыцыяй: калі не праходзіў наш праект, імкнуліся шляхам паправак радыкалізаваць ахвіцыйны варыянт. У Дэклярацыю аб сувэрэнітэце жменька дэпутатаў апазыцыі (37 чалавек) змагла правесьці 90% сваіх паправак, і гэта была наша галоўная й бясспрэчная перамога.

Аднак пасьля таго, як дэпутатам ад КПБ на пленуме ЦК «прамылі мазгі» за тое, што прынялі «бэнээфаўскую Дэклярацыю», партыйная група стала сьцяною. Ніякія аргументы ўжо ня дзейнічаюць. Канструктыўныя захады апазыцыі ня маюць цяпер ніякага сэнсу. Якімі б прагрэсыўнымі мы не зрабілі законы пра замежныя інвэстыцыі або прадпрыймальніцкую дзейнасьць, ці які іншы — гэта будзе ўсяго толькі макулятура. Пакуль ня будуць вырашаныя найперш два галоўныя пытаньні. Першае: рэальная незалежнасьць Беларусі ад Крамля. Другое: вызваленьне дзяржаўных структураў, эканомікі ды ўсіх іншых сфэраў ад камуністычнае манаполіі. Толькі пасьля гэтага можна гаварыць пра нейкі кааліцыйны габінэт міністраў, пераходны ўрад народнага даверу. Часовы, зразумела. Да новых выбараў у парляманту рэспублікі на шматпартыйнай аснове, тэрмін правядзеньня якіх Вярхоўны Савет павінен прызначыць відаць не пазьней, чым на пачатак 1992 года.

Напэўна, толькі такім шляхам і можна дасягнуць грамадзянскае згоды на Беларусі ды не дапусьціць поўнага развалу нашае эканомікі, да якога мы ідзем на фарсажы.

Дэфіцыт бюджэту, які напачатку года складаў 3,5 млрд.рублёў, ужо ўвосень можа дасягнуць, па прагнозах незалежных эканамістаў, фантастычных памераў — каля 7 млрд.рублёў. Якая, скажыце, эканоміка можа вытрымаць такое перавышэньне выдаткаў над прыбыткамі — на 35%!

Кебіч просіць Вярхоўны Савет даць яму на год фактычна дыктатарскія паўнамоцтвы. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, у сваю чаргу, спрабуе прыбраць да сябе функцыі, якія па канстытуцыі належаць парляманту. Рыхтуецца дыктатура як у палітычнай, гэтак і ў гаспадарчай галінах.

Рэжым агانізуе.

# Новыя выбары: прапановы апазыцыі

**Разгортваньне падзеяў на Беларусі сьведчыць, што патрабаваньне роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савету БССР ды правядзеньне датэрміновых выбараў у парлямант рэспублікі на шматпартыйнай аснове ня толькі ня страчвае актуальнасьці, а наадварот — вылучаецца ўсімі апазыцыйнымі сіламі на першы плян. У гэтай сытуацыі вельмі важна, што ёсьць ужо праект новага закону пра выбары на шматпартыйнай аснове, які падрыхтаваны дэпутацкай апазыцыяй БНФ. Дэпутаты-апазыцыянэры дамагаюцца ад Вярхоўнага Савету, каб ужо на гэтай сэсіі законапраект быў разгледжаны ў першым чытаньні.**

**Што ж прапануе апазыцыя?**

Праект апазыцыі прадугледжвае т.зв. камбінаваную сыстэму фармаваньня вышэйшага заканадаўчага воргану рэспублікі. Выбары па ўсебеларускіх партыйных сьпісах (прапарцыйная сыстэма) спалучаюцца з выбарамі па аднамандатных выбарчых акругах (мажарытарная сыстэма). Гэта прадыктавана не жаданьнем захаваць імпэратыўнасьць мандату, а ўсьведамленьнем неабходнасьці часовае адаптацыі ва ўмовах, калі няма традыцыяў функцыянаваньня шматпартыйнай сыстэмы.

У чым сутнасьць законапраекту?

**Першае.** Праект прадугледжвае стварэньне прафэсыйнага парляманту.

**Другое.** Права абіраць маюць толькі грамадзяне Беларускай ССР. (Гэта значыць, што неаходна прыняць і Закон «Пра грамадзянства Беларускай ССР»). Пазбаўленыя права абіраць вайскоўцы. Правамоцнасьць такога патрабаваньня відавочная: на момант магчымых першых дэмакратычных выбараў вайсковыя падразьдзяленьні, што разьмешчаныя на Беларусі, будуць знаходзіцца ў юрысдыкцыі Саюзу ССР. Прычым, актыўнае стварэньне на абшарах нашае рэспублікі заходняга абарончага пляцдарму прывядзе да таго, што канцэнтрацыя вайскоўцаў можа (пры захаваньні ў іх выбарчага права) дасягнуць у агульнай колькасьці выбаршчыкаў 10% - 20%.

**Трэйцяе.** Права быць абранымі абмежаванае ня толькі неабходнасьцю мець грамадзянства БССР, але й узростам (23 гады — як для судзьдзяў), а таксама — бязвыязным пражываньнем на тэрыторыі Беларусі на працягу апошніх 6 гадоў, што дазволіць больш грунтоўна ды сьвядома ставіцца да дэпутацкіх абавязкаў.

**Чацьвертае.** У праекце Закону прадугледжана зусім новая сыстэма матар'яльнага забесьпячэньня выбараў. Роўныя сумы выдаткоўваюцца партыям, рухам, блёкам, незалежным кандыдатам зь дзяржаўнага бюджэту. Разам з тым, партыі, рухі, выбарчыя блёкі, а таксама незалежныя кандыдаты, якія самастойна ўдзельнічаюць у выбарах, могуць ствараць выбарчыя фонды, для чаго яны выкарыстоўваюць свае сродкі, ахвяраваньні грамадзянаў, працоўных калектываў, грамадзкіх арганізацыяў і рухаў. Памер выбарчага фонду не павінен перавышаць чатырохразовы памер сумы (магчыма, што гэтая лічба будзе ўдакладняцца), якая выдаткаваная для кожнай партыі, руху, выбарчага блёку, незалежнага кандыдата. Прадугледжана сыстэма жорсткага кантролю за паступленьнем сродкаў на адпаведныя рахункі й выдаткаваньнем гэтых сродкаў.

**Пятае.** Прадугледжана строгая адказнасьць за парушэньне Закону пра выбары як з боку выбарчае камісіі, так і кандыдатаў.

**Шостае.** У сувязі з тым, што частка дэпутатаў ідзе па партыйных сьпісах, уводзіцца новы разьдзел — рэгістрацыя партыяў, рухаў і выбарчых блёкаў Цэнтральнай выбарчай камісіяй. У праекце даюцца таксама вызначэньні партыяў і грамадзкапалітычных рухаў у сувязі з тым, што ў рэспубліцы няма адпаведнага заканадаўства.

**Сёмае.** Права падаць партыйны сьпіс кандыдатаў у дэпутаты маюць тыя партыі, рухі ды выбарчыя блёкі, якія зарэгістраваныя ЦВК. Акрамя таго, групы выбаршчыкаў могуць вылучыць сваіх кандыдатаў — любую асобу (зразумела, з улікам акрэсьленых абмежаваньняў), калі яе падтрымлівае ня менш 1000 выбаршчыкаў гэтае акругі.

**Восьмае.** Мейсцы ў выніку выбараў разьмяркоўваюцца ў парадку чарговасьці. На практыцы гэта будзе выглядаць прыкладна так: выбаршчык на выбарчым участку атрымлівае 2 бюлетэні рознага колеру. Адзін такі ж, як і заўсёды — з прозьвішчамі «незалежных» кандыдатаў. Другі — з назвамі партыяў, рухаў, выбарчых блёкаў. (Напрыклад: 1. БНФ; 2. БСГД; 3. КПБ; 4. ХДП + Аб'яднаныя дэмакраты і г.д.). У працэсе агітацыйнае кампаніі на выбарчым участку, а таксама й у выбарчым пакоі (кабіне) будуць вісець сьпісы кандыдатаў у дэпутаты ад гэтых партыяў ці рухаў. Выбаршчык абводзіць колцам тую партыю ці рух (блёк), якому ён аддае перавагу. Мейсцы разьмяркоўваюцца Цэнтральнай выбарчай камісіяй прапарцыйна атрыманым галасам па асобай сыстэме. Абранымі лічацца тыя кандыдаты ў дэпутаты, чые парадкавыя нумары ў адпаведным партыйным сьпісе меншыя ці роўныя колькасьці мандатаў, якія атрыманыя гэтым сьпісам.

Усяго, як прадугледжвае праект, у новым беларускім парляманце будзе працаваць 160 дэпутатаў: 80 зь іх будзе абрана па 80 выбарчых акругах у звычайным парадку й 80 — па партыйных сьпісах.

**Лявоньцій ЗДАНЕВІЧ,**
**народны дэпутат БССР**
**(апазыцыя БНФ),**
**Марына САТОЛІНА,**
**кандыдат юрыдычных навук**



фота С.ГРЫЦА

«...Многое изменилось за последнее время в армии — условия службы, вооружение, сама обстановка. Не изменилось одно: вера в святость и нерушимость воинского долга перед Родиной, народом. Воинский долг нерасторжимо связует солдата со своим народом, уверенно ведёт его сквозь трудности армейских будней...»

**Д. ЯЗАЎ.**

*(«ПРАВДА», 9 траўня г.г.)*

## 25-е сакавіка ў амэрыканскім кангрэсе

« Чуў па Голасе Амэрыкі, што 73 угодкам Незалежнасьці Беларусі ў кангрэсе ЗША была прысьвечаная прамова аднаго з кангрэсмэнаў. Не маглі б Вы больш падрабязна расказаць пра гэта?»

Р.Прымака,
Пухавіцкі р-н

— Так, сапраўды, з гэтае нагоды ў Амэрыканскім кангрэсе прамаўляў Сп.Анунцыя, дэпутат ад штату Ілінойс, мейсца кампактнага жыхарства беларусаў у Амэрыцы. Падаем у скароце ягоную прамову паводле «Congressional Record»:

«Сп. Старшыня, 25 сакавіка 1918 года народ Беларусі абвесьціў незалежнасьць і пачаў адраджаць сваю культурную самабытнасьць.

На жаль, хоць мы й набліжаемся да 73 Угодкаў Дня Незалежнасьці Беларусі, іхняя мара пра незалежнасьць ад Савецкага Саюзу застанецца няздзейсьненая.

Як многія іншыя зьняволеныя народы пад ярмом савецкае дамінацыі, дзесяткі тысячаў беларусаў, па-ранейшаму дамагаюцца рэалізацыі асноўных правоў чалавека, павагі да сваіх культурных традыцыяў, да ўсяго таго, што Саветы сыстэматычна вынішчалі. Саветы намагаліся зрусіфікаваць Беларусь, каб гэтая краіна выглядала ня чым іншым, як правінцыяй адзінага, маналітнага народу.

Гэта ня мае нічога агульнага з праўдаю. У народа Беларусі асаблівая славянская мова, багатыя мастацкія ды фальклёрныя традыцыі.

Прыкра казаць, Сп. Старшыня, але з прычыны савецкага ўціску народ Беларусі вымушаны ладзіць сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці за межамі свае краіны. (...) Цяпер, з набліжэньнем 73 Угодкаў Дня Незалежнасьці Беларусі, мне прыемна далучыцца да людзей беларускага паходжаньня ў Чыкага ды па ўсім сьвеце, якія змагаюцца за аўтаномію ды свабоду для свае Бацькаўшчыны. Я не супакоюся, пакуль не надыйдзе дзень, калі яны змогуць рэалізаваць свае права на самавызначэньне».

## Варшаўскія гульні

«У дачыненьні да беларускага насельніцтва Варшава праводзіць палітыку своеасаблівага прагматызму — яны разглядаюць нас у пэўным сэнсе як заложнікаў, — заявіў у інтэрвію польскаму штотыднёвіку «Пшеглёнд тыгоднёвы» беларускі пісьменьнік Сакрат Яновіч, які жыве ў Беластоку. — Апошнім часам Беластоцкаму ваяводзтву выдаткуюцца значныя грашовыя сродкі — нам даюць нават болей, чым мы ў стане «асвоіць». У чым прычына гэткай палітыкі? Нас субсыдуюць так ш чодра, каб атрымаць, так мовіць, казыр у міжнароднай гульні. Рэч у тым, што на абшарах Беларускай ССР жыве ня менш за 400 тыс. палякаў, і Варшава чакае ад Менска адказных «прыязных крокаў» у дачыненьні да гэтае польскае меншасьці.

Калі ўзьнікла ідэя стварыць польскі унівэрсытэт у Берасьці, нас тут пачалі ўгаворваць, літаральна ціснуць на нас, каб мы, са свайго боку, выступілі зь ініцыятывай арганізацыі ў Беластоку інстытуту беларускае культуры: гэта мусіла зрабіць Менск больш згаворлівым. Вось яшчэ прыклад: нядаўна польскае кіраўніцтва прапанавала стварыць на Сувальшчыне, у паўночна-усходнім куце Польшчы, літоўскую аўтаномную вобласьць. Вільня паставілася да гэтае прапазыцыі надзвычай халодна, ведаючы, што за ёй крыецца чаканьне ад Літвы «сустрэчнага кроку» — абвешчаньня аўтаноміі раёнаў зь перавагаю польскага насельніцтва на тэрыторыі Летувіскай рэспублікі.

Што зробіш — нацыянальныя меншасьці ў наш час штораз часьцей разглядаюцца як пешкі ў міжнароднай дыпляматычнай гульні», — заключае Сакрат Яновіч.

## ПЕРАДАЧЫ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ЗА МЕЖАМІ БССР
### (Эфір паводле менскага часу)

**Радыё Польшчы.** Беластоцкае радыё. (Polskie Radio, Redakcja Bialoruska, ul.Swierkowa 1, 15-328 Bialystok, PR — Польшча)

Публіцыстычная інфармацыйная праграма «Пад знакам Пагоні»: ад панядзелка да пятніцы а гадзіне 7.30—7.45, паўтараецца а гадзіне 17.45— 8.00.

Царкоўная передача «Духовыя сустрэчы»: у сыботу а гадзіне 7.30—7.45.

Беларускі радыёчасопіс: у нядзелю а гадзіне 7.00 — 7.30

Хвалі беластоцкіх передачаў — 4,12 і 4,128 м (УКХ — 72800 і 72680 кГц).

**Радыё незалежнай Летувы.** (Рэспубліка Летува, м.Вільня, пашт.скр. № 2082. Беларускія перадачы радыё незалежнае Летувы)

1 праграма: Навіны на беларускай мове. Штодзённа а гадзіне 22.15, трываюць 5 — 10 хвілінаў на хвалі 450,5 м (666 кГц).

2 праграма: «Беларускае слова на хвалях Летувы» — два разы на месяц кожную 2-ую й 4-ую сыботу а гадзіне 11.30 — 12.00.

«Беларуская передача на хвалях Vilniaus varpas - Віленскага звону». Штотыдзень па серадах а гадзіне 14.00 — 15.00, прамы эфір, на хвалі 271 м (1107 кГц).

**Радыё Ватыкану.** (Radio Vaticana, Sezione Bielorussa, 00120 Citta del Vaticano — Ватыкан).

Беларуская праграма: штодня а гадзіне 20.10 на хвалях 41,49 м (7365, 6185 кГц). Перадачы паўтараюцца а гадзіне 6.20 на тых жа хвалях.

**Сусьветнае Місіянэрскае Радыё Сьвятароў.** (Global Missionary Radio Ministries, P.O. Box 122, Station A, Etobicoke (Toronto), Ontario, Canada M9C 4V2 — Канада)

Беларуская праграма «Добрая вестка» перадаецца з трох радыёстанцыяў: Транссусьветнае Радыё з Монтэ-Карла, ЭФ І БІ СІ з Манілы, (Філіпіны) і КЭЙ ДЖЫ І АЙ з Сан Франциска (ЗША).

| Станцыя | Час | Дзень | Хвалі |
|---|---|---|---|
| КЭЙ ДЖЫ І АЙ | 7.30 | пятніца | 25 м (11680 кГц) |
| Транссусьветнае Радыё | 19.45 | Сыбота | 25 м (11625 кГц)<br>31 м (9485 кГц) |
| ЭФ І БІ СІ | 21.45 | нядзеля | 31 м (9845 кГц) |

Галоўная тэматыка праграмы «Добрая вестка»: чытаньне ды растлумачэньне Бібліі, прыстасаваньне яе вучэньня да штодзённага жыцьця.

**Радыё «Свабода».** (Postfach 221425, D-8000 Muenchen, Germany— Нямеччына).

| а гадзіне | на хвалях |
|---|---|
| 5.00—5.30 | 31, 41, 49, 75 м |
| 7.00—8.30 | 25, 31, 41 м |
| 17.00—18.00 | 19, 25, 31, 41 м |
| 20.00—21.00 | 19, 25, 31, 41 м |

**Транс Эўрапейскае Радыё.** IBRA, Лісабон, Партугалія. (Edward Brzezinski, S-105-36 Stockholm, Sweden — Швэцыя).

Беларуская праграма «Добрая навіна» перадаецца кожны аўторак а гадзіне 22.00—22.30 на хвалі 25 м. (11700 кГц).

*Падрыхтавалі Кастусь Камянецкі, Вітаўт Пархвёнак, Валянтын Шаўрук.*

## У ВІЛЬНІ ЧАКАЮЦЬ ДАПАМОГІ

У Віленскім пэдагагічным інстытуце ствараецца Беларускае аддзяленьне факультэту славістыкі. Тут маюць вучыцца будучыя настаўнікі й выкладчыкі будучых беларускіх школак ды дзіцячых садкоў Віленшчыны.

Штогод набор мецьме йнакшую падвойную спэцыялізацыю: беларуская мова й літаратура ды пачатковыя клясы, беларуская мова й літаратура ды замежныя мовы і г.д. — аж пакуль школы не атрымаюць настаўнікаў усіх прадметаў.

Сёлетні набор забясьпечаны, студэнтаў бракаваць ня будзе. Праблема з выкладчыкамі. У Вільні няшмат беларусазнаўцаў, дый зь Менску даяжджаць "вахтавым мэтадам" ня кожны зможа.

Адзінаму некамуністычнаму асяродку вышэйшае школы патрэбная нашая дапамога й ахвярнасьць. Летувіскія ўлады йдуць, наколькі магчыма, насустрач кадравым патрэбам новастворанага аддзяленьня: тыя, хто пераедзе ў Вільню дзеля працы ў ВПІ, вызваляюцца ад уплаты вялікіх грошай за прапіску. Жытло трэба мяняць або арэндаваць (абмен на Вільню па цяперашнім часе магчымы з выгодаю).

Аддзяленьню патрэбныя выкладчыкі розных прадметаў. У гэтай справе ветліва прасіць тэлефанаваць супрацоўніца інстытуту Тацьцяна Каротчанкава (тэл. у Вільні: /8-0122-/ 47-35-77). Даведкі ў Менску — 31-48-93 ( Вінцук Вячорка).

В.Б.

## «ПАРАЛЕЛІ»

Хачу паведаміць чытачам СВАБОДЫ, што мною ды Сп. Лявонам Келдановічам — дырэктарам Лежневіцкай сярэдняй школы Іўеўскага раёну паўгады таму зарэгістраваны часопіс "Паралелі". У першых нумарах мы мяркуем зьмясьціць, у прыватнасьці:

Желю Желев. Фашызм (Таталітарная дзяржава); Гісторыя нескарыстаных магчымасьцяў. Размова зь Земовітам Фэдэцкім (Ці гаварыў Ягайла палітоўску? Аб жмудзінскіх заклятых і беларускім Каране. Было два Міцкевічы... Чаму ня вернемся ў Вільню)

Яраслаў Дашкэвыч. Палітычнае ашуканства ці правакацыя?..(Крах украінізацыі 20-х-30-х гг.)

Пакуль што "Паралелі" будуць выходзіць 6-7 разоў на год, у далейшым — часьцей. Мяркуемы кошт паасобніка — 2 рублі.

Юры Гайдук,
рэдактар "Паралеляў".

# Беларусісты лучацца

Нарэшце й у нас дайшло да сусьветнага гуртаваньня навуковых сілаў, якія маюць непасрэдныя дачыненьні да беларускае культуры. 25—27 траўня ў Менску мае адбыцца ўстаноўчы кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Каля паўсотні інтэлектуалаў прыедуць з-за мяжы — з Амэрыкі, Баўгарыі, Вялікай Брытаніі, Італіі, Нямеччыны, Польшчы, Швайцарыі, Японіі ды іншых краінаў. Бальшыню дэлегатаў кангрэсу, вядома ж, складуць айчынныя ды саюзныя дасьледчыкі. Упершыню на Беларусь па ахвіцыйным запрашэньні (кангрэс праводзіцца на дзяржаўным узроўні) прыедуць лідары беларускае эміграцыі — А.Шукелайц, Я.Запруднік, В. і З.Кіпелі.

За тры дні працы форума плянуецца прыняць статут МАБ, аклясьці Міжнародны камітэт беларусістаў і абраць ягонага прэзыдэнта, стварыць камісіі, а таксама правесьці працу сэкцыяў і некалькі «круглых сталоў».

Ці зазначыць гэтая падзея штоколечы ў жыцьці Беларусі? Мусіць зазначыць! Калі б толькі сябры асацыяцыі не спыніліся на ўхваленьні пастаноў высокага форуму, а запрацавалі належным чынам, калі б толькі ў кіраўніцтва МАБа ня трапілі бэсэзраўскія акадэмікі з партыйнымі білетамі, — дык стварэньне гэткай структуры магло б мець эпахальнае значэньне для беларускае культуры. Бо яна адкрыла б нам зусім новыя магчымасьці, а перадусім — мажлівасьць выносіць праблемы беларускія на ўвесь сьвет, ствараць замежныя цэнтры беларусазнаўчых штудыяў, каардынаваць і стымуляваць усю працу па беларусістыцы, абменьвацца навуковай літаратурай ды інфармацыяй, спрыяць навучаньню беларускай мове за межамі Беларусі, урэшце рыхтаваць нашых дасьледчыкаў на Захадзе, а іхніх — стажыраваць у нас. Гэта шанец зрабіць колькі крокаў у Эўропу.

Г.С.

# М.Тэтчар таксама ня ўсё можа

Пад пагрозаю зрыву творчы візыт у Англію харавой капэлы Акадэміі Навук БССР, якую запрасіў хор Silver Ring Choir зь мястэчка Бат, за пасярэдніцтвам Праваслаўнага Аляксандра Надсона — беларускага сьвятара ў Лёндане ды Гая Пікарды — дасьледчыка старажытнай беларускай царкоўнай музыкі.

З ангельскага боку ўсё падрыхтавана: нават прададзеныя білеты на канцэрты, якія маюць адбыцца з 4 па 12 траўня спачатку ў Баце для мяйсцовай публікі, а потым для нашых суайчыньнікаў у Лёндане.

Але, як паведаміла кіраўнічка харавой капэлы АН БССР Тамара Слабодчыкава, нашая намэнклятура — функцыянэры Менскага абласнога савету прафсаюзаў ды маскоўская бюракратыя робяць усё, каб паездка не адбылася. «У мяне склалася такое ўражаньне, — заявіла Т.Слабодчыкава, — што яны наўмысна цягнуць з афармленьнем выязных дакумантаў, бо ўсе неабходныя паперы ўдзельнікі хору падалі яшчэ два месяцы таму».

Да гэтай справы спрычынілася былая прэм'ер-міністар Вялікай Брытаніі Маргарэт Тэтчар, у якасьці дэпутата брытанскага парляманту ад выбарчае акругі прадмесьця Лёндану Фінчлі, якое зьяўляецца нацыянальным апірышчам брытанскіх беларусаў. Яна, у прыватнасьці, дамаглася дазволу на транзытны праезд беларускіх выканаўцаў праз Францыю. Але, нават такі спрактыкаваны дзеяч, як Маргарэт Тэтчар, бадай ня здолее зламаць бар'еры бальшавіцкіх прафсаюзаў.

Ігар КАРПІКАЎ

P.S. Пакуль рыхтаваўся нумар, стала вядома, што харавая капэла так і не здолела выехаць з СССР.

# «...І нікому ня сорамна»

Паважаная рэдакцыя «Свабоды»!

Пішa Вам грамадзянка рэспублікі Баўгарыя. Хачу зьвярнуцца праз вашую газэту да беларусаў. Калі Вам, шаноўныя беларусы,стане сорамна за страчаную мову, культуру? Чаго ці каго Вы чакаеце? Нават Закон пра мове ўжо ёсьць. Але калі я патрабую ад загадчыка аддзела культуры Іўеўскага райвыканкаму Журавеля Ул.М., каб гаварыў са мной на дзяржаўнай мове, ён адказвае, што тэрмін яшчэ не падыйшоў і навогул мовай міжнацыянальных зносінаў зьяўляецца расейская (бо я іншай нацыянальнасьці, па законе са мной трэба гаварыць па-расейску — так выходзіць). Раённыя сходы работнікаў культуры йдуць па-расейску, адна я выступаю па-беларуску, і, самае дзіўнае, нікому ня сорамна.

Я жыву на Беларусі менш за два гады. Праўда, у 1985 годзе скончыла Менскі інстытут культуры, але там беларускай мовы амаль што ня чула. Адзіны чалавек сярод усіх маіх знаёмых, які ў жыцьці гаварыў на роднай мове тады, быў мой муж. Шмат хто называў яго нацыяналістам. (Я тады таксама так лічыла). Але ён сам вывучыў балгарскую мову, бо лічыў сваім абавязкам ведаць мову народа, на чыёй зямлі апынуўся (у Балгарыі мы пажылі тры гады).

Зараз я разумею, што чалавек, які не паважае сваю нацыю, ня можа паважаць іншыя народы. Гэта што датычыць дэкляратыўнага інтэрнацыяналізму савецкіх людзей. Прыкладаў гэтага «інтэрнацыяналізму» я й сама пабачыла. На мае крытычныя заўвагі Журавель Ул.М. адказвае: «Если вам что-то не нравится, езжайте в Болгарию». Што на гэта можна адказаць?!

І апошняе, што мяне вельмі зьдзівіла, гэта тое, што аддзел культуры не плянуе адзначаць 24 траўня — Дзень славянскай пісьменнасьці. Ведаеце, я вельмі ганаруся, што для баўгарскага народу ўжо больш за стагодзьдзе гэта самае любімае сьвята. Дзень сьвятых Кірылы й Мятодзія. У гэты дзень увесь народ аддае ім даніну павагі. Калі ў народа ёсьць такое сьвята, то і сам народ жыве. Баўгарскі народ ня страціў свае мовы ды культуры нават у часы асманскага ярма, якое доўжылася пяць стагодзьдзяў! А Вы! Дзе Ваш нацыянальны гонар?!

Я вельмі хачу, каб мае дзеці ганарыліся Радзімай і культурай свайго бацькі так, як ганарацца яны Радзімай свае мамы. Я ведаю, у беларускага народу цяжкі гістарычны лёс. Але ўжо няма часу чакаць. Лепей успомніць зорныя часы сваёй культуры й гісторыі. Вам ёсьць чым ганарыцца! А на пачатак проста загаворым на роднай мове, не чакаючы ніякіх тэрмінаў. Успомнім беларускія песьні, казкі ды радкі Янкі Купалы:

*У народ і край свой толькі веру*
*І веру ў самаго сябе.*

**Стэфка Мухтарава,**
рэжысэр Іўеўскага народнага тэатру

## Пра нашую мову

**«Настоящий язык белорусский есть весьма любопытный памятник, который наши учёные должны тщательно изучать потому, что он многое объясняет в русских летописях и филологии нашего языка: его можно назвать отцом великороссийскому наречию. Это, вероятно, тот самый язык, которым говорили в Пскове и Новгороде при варягах. Устраненный благовременно от влияния монголизма и доселе не испытавший воздействия великороссийского наречия, он сохранил во многих отношениях свой старинный вид и характер и менее претерпел от формы польского языка, нежели думают».**

Гэтыя радкі былі напісаныя паўтары сотні гадоў таму акадэмікам і неадменным сакратаром Расейскае акадэміі Д.І.Языкавым (1773—1845) і апублікаваныя ў «Энциклопедическом лексиконе» Плюшара (т.8, с.569), які быў выдадзены ў С.-Пецярбурзе ў 1837 годзе.

Сучасныя расейскія навукоўцы ня надта любяць цытаваць такія ацэнкі. Нам жа, беларусам, чытаць іх вельмі нязвыкла й дзіўтна. Бо прызвычаілі нас да таго, што нашая сьпеўная мова ўсяго толькі «грубый диалект», усяго толькі «испорченный русский язык». Занадта ўжо ўеўся ў нашыя душы комплекс «малодшага брата», які пасьлядоўна прышчэпліваліі нам два стагодзьдзі.

**Алесь Зьмітровіч**

**Дзякло за матар'ял аўтар ахвяроўвае сьпеўнаму гурту УНІЯ**



фота А.КАЛЯДЫ

**18 траўня ў Вільні**, на могілках Роса, быў урачыста перазахаваны прах пачынальніка беларускага нацыянальнага адраджэньня Івана **ЛУЦКЕВІЧА**. Было некалькі соцень чалавек з Менску, Горадні, Полацку, Вільні ды іншых гарадоў. Імшу ў катэдральным касьцёле служылі беларускія сьвятары на чале з ксяндзом Уладыславам Чарняўскім зь Вішнева. Завершыла ўрачыстасьці вечарына, на якой з рэфэратам выступіў Анатоль Сідарэвіч. Былі ўспаміны, сьпявала «Унія». Зьдзівіла й запомнілася пасьпешлівасьць зь якой госьці Вільні пакідалі гэты гасьцінны горад.

(брат)

